# НЕАДКЛАДНАЯ СПРАВА

Працэс эміграцыі ДП зь Нямеччыны дабягае свайго канца. Таму зусім натуральным парадкам Нямеччына перастала ужо быць ня толькі найбольшым цэнтрам беларускага грамадзкага і палітычнага жыцьця на эміграцыі, але і наагул зьнiклі тут усякія магчымасьці якой-небудзь шырэйшай дзейнасьці. Прычынай гэтага ня толькі адносна невялікая колькасьць беларусау, што ня могуць выэміграваць, сколькі факт, што будучы уключанымі у нямецкую гаспадарку ды пазбауленыя усякае магчымасьці працы у безработнай Нямеччыне, вядуць яны напоугаладнае існаваньне у літэральным значаньні гэтага слова.

Таму і «Бацькаушчына», якая яшчэ год назад рэгулярна абслугоувала беларускую эміграцыю нятолькі у Нямеччыне, але і у цэлым сьвеце, на працягу апошняга часу паяулялася вельмі рэдка. А гэты ейны нумар праудападобна будзе ужо апошнім.

Ня у прыкладу прынятаму у такіх выпадках звычаю, ня будзем тут разводзіцца аб ролі «Бацькаушчыны», якую яна адыграла у беларускім палітычным і грамадзкім жыцьці на чужыне. Сам факт, што праз доугі час была яна адзінай рэгулярнай друкаванай газэтай на эміграцыі і цешылася узапрауды вялікім падтрыманьнем як матар'яльным, так і маральным нашых суродзічау з цэлага сьвету, гаворыць сам за сябе й выстауляе ей найлепшы атэстат.

Затое уважаем за свой абавязак спыніцца на іншым, куды важнейшым пытаньні. Калі у сілу заіснаваушых абставінау «Бацькаушчына» спыняе свой выхад, то, нажаль, не паустау яшчэ дагэтуль ніводзін іншы салідны прэсавы ворган, які-б здолеу поунасьцю яе замяніць. Гэтае зьявішча есьць вельмі адмоуным і асабліва непрабачальным у сувязі з тым, што, дзякуючы выэміграваньню зь Нямеччыны асноуной масы беларусау, якія у новых краінах свайго побыту здабылі шырокія магчымасьці працы і заработкау, паусталі цяпер лепшыя магчымасьці утрыманьня собскае прэсы, чымсьці былі раней.

Што дасюль аднак гэтага ня сталася, вінаватыя толькі мы самі. Нашая інтэлігенцыя, а у першую чаргу нашыя палітычныя і грамадзкія дзейнікі не парупіліся аб стварэньні рэгулярнай прэсы у той час, калі прэса іншых нацыянальнасьцау, навет слабейшых за нас, разьвіваецца даволі буйна. Трэба зауседы помніць, што свая прэса есьць найбольш асноуным і незаменным сродкам дзеля уратаваньня нашых эмігрантау ад нацыянальнае сьмерці сярод мора чужынцау, як і нацыянальна-палітычнага узгадаваньня й законьвізаваньня іх. Нацыянальная прэса зьяуляецца ня у меншай меры неабходнай дзеля нашай рэпрэзэнтацыі на вонкі, якая у сваю чаргу зьяуляецца найвялікшым, калі не адзіным нашым нацыянальным заданьнем у умовах эміграцыйнага жыцьця. Дык ня можа падлягаць найменшаму сумліву факт, што пры адсутнасьці рэгулярнай і на адпаведнай вышыні пастауленай прэсы ня можа быць і мовы аб якой-колечы салiднай нацыянальнай акцыі як у нутры самой эміграцыі, так і у яе вонкавых дачыненьнях. Нашыя палітыкі, як і прэтэндуючыя на іх, павінны задумацца над гэтым вельмі сур'езна перад тым, пакуль рабіць што-небудзь іншае.

Мы ужо ня раз на балонах «Бацькаушчыны» зьвярталі увагу на шкоднае зьявішча, што нашая эміграцыя у кажнай краіне пачынае грязнуць у сваіх дробных лякальных справах, ня могучы здабыцца на шырэйшую, скаардынаваную і супольнымі высілкамі усяе эміграцыі праводжаную нацыянальную дзейнасьць. Мы ня раз выступалі супроць лішняга лякальнага патрыятызму, заклікаючы пераламаць яго і стварыць або ажывіць і зактывізаваць ужо створаныя, а дзякуючы гэтаму лякальнаму патрыятызму амаль бязьдзейныя цэнтральныя эміграцыйныя беларускія арганізацыі, як і цэнтральныя прэсавыя ворганы.

Абмяжоуваючыся у гэтым выпадку да справы прэсы, трэба прызнацца, што нашая эміграцыя есьць колькасна за слабай, каб здолела у кажнай краіне зарганізаваць і утрымаць на патрэбнай вышыні сваю прэсу. Прыклады зь «Беларускім Эмігрантам» у Канадзе, або зь «Беларусам на Чужыне» ці «На Шляху» у Вялікабрытаніі есьць найлепшымі гэтага доказамі. А таму ужо поунасьцю насьпеу час стварыць цэнтральныя прэсавыя ворганы, змабілізавушы для гэтае мэты найлепшыя нашыя журналістычныя сілы, як і матар'яльныя сродкі з кажнага нашага эміграцыйнага асяродзьдзя. Калі-б справа гэтая была належным чынам праведзеная, то мы змаглі-б без асаблівых цяжкасьцяу стварыць два паважныя прэсавыя ворганы - адзін у Эуропе - у Ангельшчыне, Франціі або навет у Нямеччыне, дзе кошты выдавецтва бясспрэчна былі-б найменшыя, а другі за акіянам - у ЗША.

З дасюлешняй практыкі мы пераканаліся, што гэтае так важнае мерапрыемства ажыцьцявіць можна, што нашыя эмігранты ахвотна падтрымалі-б гэтую справу, калі-б былі упэуненыя, што яна праводзіцца салідна, і калі-б нашыя палітычныя і грамадзкія дзейнікі, што цешацца адпаведным аутарытэтам і даверам, энэргічна узяліся за практычнае ажыцьцяуленьне гэтага пляну.

А таму «Бацькаушчына», спыняючы на гэтым у сілу аб'ектыуных абставінау свой выхад, хоча верыць, што нашае палітычнае і грамадзкае кіраунiцтва, як і уся беларуская эміграцыя паза Нямеччынай зробіць усе магчымае для аднауленьня й пашырэньня беларускай эміграцыйнай прэсы — наймагутнейшага аружжа у нашым змаганьні за Вольную і Незалежную Беларусь.

## Хмары над сьветам згушчаюцца

**(Заканчэньне)**

што ен распараджаецца дадзенымі, што усходняя Нямеччына даканае ваеннага нападу на Заходнюю Нямеччыну ужо наступнай вясной, Заходняя прэса падчыркiвае у сувязі з гэтым, што усходня—нямецкая армія можа й не адважыцца яшчэ скарыстаць з прыкладу карэйскай камуністычнай арміі й ударыць на Заходнюю Нямеччыну, але што палажэньне заходняга Бэрліна станецца тады больш, чымсьці крытычным.

Заходнія дзяржавы, у першую чаргу ЗША, Вялікабрытанія й Францыя, грунтоуна абгаварваюць цяпер пытаньне павялічэньня заходня-нямецкай паліцыі да колькасьці, здольнай бараніцца перад інвззыяй з Усходу, як і пытаньне уцягненьня Заходняй Нямеччыны у сыстэму абароны Заходняе Эуропы. Усе гэтыя мерапрыемствы напатыкаюцца аднак на вялізарныя цяжкасьці, бо Захад, навучаны дасьветчаньнем другой сусьветнай вайны, баіцца узброіваць Нямеччыну, з другога боку й немцы не захочаць задарма праліваць сваю кроу для абароны Захаду.

* * *

Як бачым, на сьвеце існуе аж некалькі запальных пунктау, зь якіх можа раптоуна разгарэцца полымя новай сусьветнай вайны. Калі-ж узяць яшчэ пад увагу усьцяж узрастаючую загрозу на югаславянскай мяжы, новыя успышкі камуністычнай партызаншчыны у Грэцыі, ды напасьледак інсьпіраванае бальшавікамі збройнае паустаньне племя Курдау у Іране, што пачалося апошнімі днямі, дык пабачым, што палажэньне у сьвеце увесь час што раз болей завастраецца й нічога добрага не варожыць. У што усе гэта выльецца, сяньня дакладна адказаць яшчэ цяжка. Але у кажным выпадку прыпушчэньні многіх, навет займаючых адказныя дзяржаупыя становішчы палітыкау, што выбух карэйскае вайны быу справакаваны Саветамі толькі на тое, каб праверыць, якая будзе рэакцыя Захаду, не апраудаліся. Сяньня ужо стала ясным, што карэйская вайна хавае у сабе нешта большае й грязьнейшае. Есьць яна адным із этапау рэалізацыі імкненьня бельшавізму да запапаваньня над сьветам.

(—іч).

## Галава БАПЦ у Аустраліі

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Уладыка Архіяпіскап СЕРГГІЙ, галава Беларускае Аутакефальнае Праваслаунае Царквы на Эміграцыі, у чэрвені прыбыу у Аустралію. Паводля паведамленьняу, Уладыка Сергій арганізуе нашу сьвятую Царкву у Мэльбурне. Просім Госпада Бога, каб Яна сталася радасьцю й пацяшэньням для нашых братоу і сестрау у так далекай ад нашай мілай Бацькаушчыны краіне.

## Новы Беларускі Сьвятар

10 верасьня селета у катэдральным саборы УАПЦ у лягеры Шляйсгайм быу высьвечаны на сьвятара Беларускай Праваслаунай Аутакефальнай Царквы сп. Ауген Смаршчок, які месяц таму назад закончыу філязафічны факультэт на нямецкім унівэрсытэце у Марбургу, а у далейшым мае студыяваць тэалегію.

Новаму высьвечанаму Айцу Аугену жадаем шмат шчасьця у жыцьці і плоднай працы для нашага народу.

# РАСПАЧЫНАЮЧЫ НОВЫ ЭТАП...

**(Заканчэньне)**

Мэта зарубежніцкае дзейнасьці была ясная: разьбіць ды аслабіць беларускі нацыянальна—вызвольны рух для інтарэсау Масквы, а так-жа скампраметаваць яго у вачох заходняга сьвету й гэтым самым здэградаваць ягоную удзельную вагу. Маскуючы на вонкі сваю праступную дзейнасьць нацыянальнымі лезунгамі ды цынічнымі дэкляpацыямі аб службе незалежніцкай ідэі, у самай сутнасьці усе зарубежнікі павялі супраць гэтае ідэі й ейных носьбітау самы рашучы бой. А аружжам у гэтым баі балі фальш, дэмагогія, распальваньне узаемнае ненавісьці сярод беларусау, паліцыйныя даносы альянцкім уладам і правакацыі, адным словам поуны арсэнал сродкау, якімі карыстаюцца якраз бальшавікі,

Таму зусім зразумела, што змаганьне з зарубежніцтвам было асноуным мамэнтам у нашым грамадзкім жыцьці за мінулых пяць гадоу, якое адсоувала на бок іншыя, часта куды важнейшыя справы. Аднак у гэтым змаганьні зарубежніцтва было пабітае. Яно у вачох усіх сумленных беларусау поунасьцю скампраміталася, а ягоныя агентурныя мэты былі усебакова й дакумэнтальна здэмаскаваныя. Пры зарубежніцтве асталіся амаль выключна людзі, якіх пераконваць няма ужо найменшага сэнсу, для якіх белае есьць чорным, а чорнае белым, значыцца толькі цераканяныя шчыра ці каньюнктуральна й сьведамыя сваей праступнай ролі зарубежнікі,

Гэта аднак ня значыць, што расейская дывэрсыя сярод беларусау ужо зьліквідаваная й што яна у тэй або іншай форме ужо болей не пауторыцца. Наадварот, як доуга будзе існаваць загроза расейскага імпэрыялізму з мэтаю паняволіць наш край і народ, так доуга будуць знаходзіцца у нас людзі тыпу Астроускага, Сабалеускага ці Ермачэнкі, якія ахвотна згодзяцца для інтарэсау ворага разбураць і аплеуваць усе сьвятое для кажнага беларуса. Гэта абазначае толькі, што расейская дывэрсыя у сваей сяньняшняй форме, званай зарубежніцтвам, і ягоныя сяньняшнія носьбіты, як у царкоуных рызах, так і у сьвецкай вопратцы на столькі ужо скампраміταваныя й здэмаскаваныя у сваім рэнэгацтве, што асаблівай шкоды для нашай вызвольнай справы прынесьці ужо ня змогуць.

Дзеля таго. што на працягу мінулага часу галоуная нашая увага мусіла быць зьвернутая на нутраныя дачыненьні і абарону перад расейскім наступам, справы нашае вонкавае рэпутацыі й дыпляматычнай дзейнасьці як сярод іншых паняволеных бальшавізмам народау, так і перад заходнімі палітычнымі дзейнікамі былі моцна занядбаныя. Праца навонкі у нас вялася прыпадкова, несыстэматычна, без дакладна апрацаванага на даужэйшую мэту пляну. Калі-ж цяпер нашыя нутраныя справы зьяуляюцца больш менш упарадкаваныя, то, не пакідаючы й іх бяз увагі, трэба аднак напружыць усе сілы, каб адрабіць недаробленае на грунце міжнародным.

Палючая патрэба сяньняшняга дня пераканальна гаворыць за тым, што новы пэрыяд нашага выгнаньня павінен быць як найшырэй і як найразумней выкарыстаны дзеля заваяваньня сабе апініі заходняга сьвету. Трэба паінфармаваць шырокі сьвет аб нашых нацыянальных патрэбах і імкненьнях, трэба паралiжаваць сярод чужынецкіх колау ілжывую прапаганду ворага ведзеную на нашую шкоду, трэба напасьледак пераканаць адказныя палітычныя дзейнікі Захаду, што бязь зьнішчэньня ня толькі бальшавізму, але й усякага расейскага імпэрыялізму й без распадзелу расейскае імпэрыі на незалежныя гаспадарствы паняволеных ею народау ня можа быць і мовы аб трывалым міры на сьвеце.

Сяньняшні нязвычайна адказны мамэнт, плодны гістарычнымі падзеямі вялікае міжнароднае вагі, ускладае на нас, як палітычных эмігрантау, ня менш адказныя абавязкі й вызначае нам спэцыяльную ролю у працэсе нашага вызвольнага змаганьня.

Таму мала узалежняць нашыя паступаньні толькі ад добрае волі адзінак, яны павінны выплываць із зразуменьня нашага нацыянальнага абавязку перад Бацькаушчынай і Народам. А паколькі нашая Бацькаушчына стогне у найжахлівейшай бальшавіцкай няволі, якой ня ведае гісторыя усяго чалавецтва, і народ наш крывавіцца, як ашчэ ня крывавіуся, ад зьдзекау Масквы, дык і мы на чужыне, што знаходзімся у бясспрэчна шчасьлівейшым палажэньні ад нашых братоу з таго боку жалезнай заслоны, павінны таксама прынесьці адпаведную дань для народнае справы калі ня у крыві, дык прынамсі у працы.

Першы збройны зудар камунізму з дэмакратычным сьветам на Далекім Усходзе, які таксама адкрывае новую балону у гісторыі паваеннага сьвету, родзіць надзеі, што вырашальная расплата з праступным камунізмам у сусьветным масштабе зьяуляецца няухільнай і недалекай. Гэта паказвае, што канчальнае разьвязаньне й нашай нацыянальнай праблемы—быць або ня быць—хутка можа знайсьціся на парадку дня. А таму да гэтай вялікай і доугажданай гістарычнай хвіліны мусім пасьпешна прыгатауляцца у кажнай галіне нашае дзейнасьці. Калі увесь вольны сьвет пасьпяхова гатуецца сяньня да абароны перад няухільнай загрозай камуністычнай агрэсыі, то мы, што зьяуляемся ужо тры дзесяткі год ахвярамі гэтае агрэсыі, павінны з тым большай энэргіяй мабілізаваць усе нашыя нацыянальныя сілы на змаганьне за нашае вызваленьне.

Дык распачынаючы новы этап на нашым шляху выгнаньня, напружым усе нашыя сілы й волю, каб апраудаць вялікія абавязкі, ускладзеныя на нас у сяньняшні адказны й вырашальны мамэнт. А усім нашым пачынаньням няхай зауседы прысьвечвае бясспорная праудa, што нашая дзейнасьць на чужыне, калі яна будзе праводжаная у поуным зразуменьні гэтага абавязку, можа заашчадзіць шмат крыві на Бацькаушчыне, калі надыйдзе адпаведны мамэнт вырашэньня справы нашага незалежнага палітычнага існаваньня.

ЯЗЭП КАРАНЕУСКІ

# ЗА СВАБОДУ НАРОДАЎ І ЧАЛАВЕКА.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАРОДАЎ АБН У ЭДЫНБУРЗЕ.

Зь ініцыятывы Шкоцкай Лігі за Свабоду Эуропы, галоуна стараньнямі ейнага Старшыні сп. Д. Ф. Стуарта, адбылася у эдынбурзе (Вялікабрытанія) 12—14 чырвеня селата трохдзенная канфэрэнцыя прадстаунікоу паняволеных бальшавізмам народау, што задзіночыліся у Антыбальшавіцкім Блеку Народау (АБН) і вядуць бесьперапыннае змаганьне за свое вызваленьне.

У Канфэрэнцыі прынялі актыуны удзел упаунамочаныя прадстаунікі нацыянальна-вызвольных арганізацыяу народау Азэрбайджану, Баугарыі, Беларусі, Грузіі, Ідэль-Уралу, Пауночнага Каукaзу, Латвіі, Летувы. Мадзяршчыны, Казакіі, Армэніі, Славаччыны, Чэхау, Туркестану, Украіны і Харваччыны. Толькі прадстаунікі альбанцау, эстонцау, румынау, сэрбау і славэнцау з прычыны розных тэхнічных перашкодау не змаглі прыбыць на Канфэрэнцыю.

Перад афіцыяльнай Канфэрэнцыяй адбылася прэсавая канфэрэнцыя з удзелам карэспандэнтау многіх прэсавых агенцвтау і газэт, у тым ліку ад Рэйтэра, Юнайтыд-Прэс, Асошыейтыд-Прэс і другіх. На канфэрэнцыі былі шырака асьветленыя прычыны, што прывялі да стварэньня Антыбальшавіцкага Блеку Народау, як каардынуючага органу змаганьня супраць бальшавізму народау ім паняволеных. Прадстаунікі паасобных нацыянальнасьцяу інфармавалі замежную прэсу аб змаганьнях іхных народау за свае вызваленьне і дзяржауную незалежнасьць.

Нарады самой Канфэрэнцыі адкрыу Старшыня Шкоцкай Лігі за Свабоду Эуропы Сп. Д. Ф. Стуарт, які успомніу вялізарныя ахвяры паняволеных бальшавізмам народау і зачытау доугі сьпісак нацыянальных героеу—мучанікау, што злажылі свае жыцьце за вялікую ідэю вольнасьці. Мінутай маучаньня Канфэрэнцыя ушанавала іхную сьветлую памяць. Пасьля гэтага сп. Стуарт зьвярнуу увагу на бесперапыннае антыбальшавіцкае змаганьне народау, што сталіся ахвярамі бальшавіцкага тэрору й насільля. а напасьледак прадставіу прысутным паасобныя нацыянальныя дэлегацыі што прымалі удзел у канфэрэнцыі.

У першы дзень канфэрэнцыі былі заслуханыя агульныя даклады аб народах АБН і займаных імі тэрыторыях, як аднэй цэласьці. Старшыня АБН Я. Стецько зрабіу даклад аб мэтах і заданьнях АБН. Былы міністар Латвіі Бэрцінс і Старшыня Камітэту Вызваленьня Туркестану Вэлі-Каюм Хан гаварылі аб прыродных багацьцях і эканамічным патэнцыяле паняволеных Масквою народау. Старшыня Мадзярскага Вызвольнага Камітэту генэрал Фаркаш і сябра Грузінскага Нацыянальнага Комітэту капітан Нануашвілі пазнаемілі прысутных з ваенным патэнцыялам паняволеных народау і яго ролі й значэньні у часе вайны.

На другі дзень канфэрэнцыі старшыні дэлегацыяу паасобных народау зачыталі даклады, у якіх знаемілі прысутных зь мінуушчынай і цяперашнім палажэньнем сваіх народау, як і іхнім змаганьнем супроць бальшавізму.

Паколькі старшыня бнларускай дэлегацыі др Ст. Станкевіч ня змог прыбыць на канфэрэнцыю з прычыны спозьненага атрыманьня візы ад Брытанскага кансуляту, ягоны даклад, перасланы поштай, быу прачытаны адным зь беларускіх делегатау зь Лендану сп. Курылай. У сваім дакладзе др. Станкевіч нарысавау коратка, але зьмястоуна гістарычны шлях беларускага народу, часы ягонага буйнага роськвіту й славы у пэрыяд беларускае дзяржаунасьці—Вялікага Княства Літоускага, як і гады ягонае няволі й паніжэньня. У дакладзе было ярка падчыркнута, што, ня гледзячы на жорсткія перасьледваньні з боку маскоускага акупанта. беларускі народ ніколі не пагаджауся з накінутай яму няволяй, але зауседы хапауся за зброю супраць акупанта, якіі цяпер найлепшыя сыны ягоныя у радох беларускіх паустанцау напосяць крывавыя удары маскоуска-большавіцкім прыгнятальнікам. Становішча беларускага народу у [illegible]бліччы сяньняшняй міжнароднай сытуа[illegible] было прадстаулена прэлегэнтам наступна:

«Беларускі н[illegible] есьць міралюбным народам. Я[illegible]шчыра жадае міру. Ды інакш і быць ня можа. Ніводзін народ не пацярпеу ад войнау у так вякікай ступені, як народ беларускі. Першая сусьветная вайна й другая сусьветная вайна у вялікай меры адбываліся на Беларусі, прыносячы з сабой вялізарныя спусташэньні. Есьць таксама пэуным, што Беларусь станецца галоуным тэатрам і трэйцяй сусьветнай вайны, як краіна, якая зьяуляецца мостам паміж узаемна варожымі Захадам і Усходам.



Д. Ф. Стуарт.

Але ня гледзячы на гэта, мы дасканала разумеем, што запрауды мір будзе магчымым адно толькі тады, калі бальшавізм, як асноунае жарала ваеннай загрозы, будзе поунасьцю зьнішчаны, таксама як спрадвечны расейскі імпэрыялізм, бо бавьшавізм есьць толькі аднэй із формау апошняга. Ня менш ад гэтага мы таксама разумеем вельмі добра, што трывалы мір можа быць дасягнуты тады толькі, калі усе народы, што сталіся ахвярамі расейскага нявольніцтва, здабудуць усе магчымасьці будаваць свае собскае жыцьце і самі вырашаць аб сваім лесе згодна зь ідэямі Атлянтыцкай Хартыі і іншымі асновамі дэмакратыі. Толькі за такі а ня іншы мір змагаецца цяпер і будзе змагацца у будучыні беларускі народ супольна зь іншымі народамі, задзіночанымі у Антыбальшавіцкім Блеку Народау“.

Пасьля усіх дакладау разгарнулуся ажыуленая дыскусыя й абмен думак, у якой прынялі актыуны удзел прадстаунікі грамадзка-палітычнай думкі Вялікабрытаніі.

На заканчэньне была прынятая Рэзалюцыя Канфэрэнцыі й Зварот паняволеных бальшавізмам народау да народау яшчэ вольнага сьвету. У абодвых гэтых дакумэнтах было грунтоуна прадстаулена палажэньне паняволеных бальшавізмам народау, шырака асьветленыя ідэі й канкрэтныя мэты, за якія яны змагаюцца, а таксама была выказана перасьцярога заходнім дэмакратыям, што іхная нестаноукасьць у змаганьні з расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам, шкоднае талераваньне у сябе дома ягоных дывэрсыйных агентау—пятых калонау, ды зманныя надзеі на разьвязаньне усіх супярэчнасьцяу паміж Захадам і Усходам мірным шляхам зьяуляецца забойчай загрозай для вольнасьці усяго сьвету.

Канфэрэнцыя была першай легальнай і афіцыяльнай, у шырокім маштабе зарганізаванай міжнароднай маніфэстацыяй узаемнай салідарнасьці усіх паняволеных бальшавізмам народау, была яна адначасна незапярэчным доказам бесьперапыннага й бескампрамісовага змаганьня за вызваленьне й дзяржауную незалежнасьць кажнага зь іх.

Канфэрэнцыя цешылася вялікім зацікауленьнем сярод публічнай апініі Захаду, выклікала жывыя водгукі на балонах брытанскай і іншай замежнай прэсы й шырака азнаеміла заходнія колы грамадзянства з патрэбамі й імкненьнямі нерасейскіх народау Сярэдня—Усходняй Эуропы й падсавецкай Азіі.

Удзельнік.

# Чарговая афэра Астроўскага.

Ведамы на беларускім грунце авантурнік Радаслау Астроускі, які усякімі магчымымі яму спосабамі выкарыстоувау зауседы кажную новую палітычную сытуацыю для сваей афэры, паспрабавау яшчэ раз вынырнуць па палітычным гарызонце з новай авантурай. Падзеі на Далекім Усходзе, дзе упяршыню дайшло да збройнага канфлікту паміж камуністычнай агрэсыяй і заходнім дэмакратычным сьветам, выдаліся для гэтай мэты Астроускаму даволі спрыяючай нагодай. Дык доуга не чакаючы, каб, барані Божа, нехта не папярэдзіу, ен, як прэзыдэнт калішняга гітлераускага эрзацу, прауна разьвязанай яшче у 1945 г, Беларускай Цэнтральнай Рады, зьвяртаецца да беларускай эміграцыі з шумнай «Адозвай», надрукаванай у Лендaнскім „Аб‘яднаньні» (Но. 7-28) за ліпень 1950), а потым перадрукаванай зауседы услужлівымі для кажнай зарубежніцкай афэры «Украінскімі Вістямі». Для наданьня сабе большае павагі у канцы гэтае адозвы пададзена, што напісаная яна у Швайцарыі 7.7.1950, дзе ейнаму аутару бываць наагул ніколі ня прыходзілася.

У гэтай «адозве» Астроускі заклікае усіх баяздольных беларусау і беларусак, каб яны пісаліся ахвотнікамі на вайну у Карэі. А у сваім «Загадзе», напісаным дзень пазьней быццам у тэйжа Швайцарыі, падае канкрэтныя інструкцыі якім спосабам гэты набор беларускіх жаунерау мае быць практычна праведзены.

Пэуне-ж усякае змаганьне з камунізмам, незалежна ад таго, дзе яно праводзіцца, есьць справай добрай і патрэбнай. Таму ня выключана, што можа знайсьціся адзін-другі беларус, незарыентаваны у беларускіх справах, які падумае, што Астроускі робіць узапрауды добрую работу, якой належыцца самае шырокае подтрыманьне. Таму для тых незарыентаваных, якія магчыма яшчэ паверацць у шчырасьць інтэнцыяу Астроускага, уважаем за свой нацыянальны абавязак падаць некалькі словау выясьненьня.

Усякае збройнае выступленьне наагул, а тым больш на чужым фронце, аддаленым ад межау роднае бацькаушчыны, мусіць быць у цеснай згодзе з нацыянальна - палітычнымі інтарэсамі дадзенага народу, павінна быць разьлічана на нейкую рэальную карысьць, якая, калі б не перавышала панесеных у ім стратау, то прынамсі раунаважыла іх. З гэтага і толькі гэтага глядзішча можа разглядацца кажная магчымасьць збройнае акцыі беларускае эміграцыі, у тым ліку і на Карэі.

Дык прыгледзімся, на колькі адказвае запраудным беларускім інтарэсам прапанова Астроускага? Каб лепш высьніць гэтае пытаньне, варта спачатку прыгледзіцца, што робяць у гэтым кірунку эміграцыі іншых паняволеных бальшавізмам народау, у першую чаргу эміграцыі значна мацнейшыя за нас, як з гледзішча сваей колькасьці, так і палітычнай актыунасьці.

Дзеля прыкладу прывядзем становішча польскіх і украінскіх эмігрантау. Толькі пазбауленыя розуму мог-бы думаць, што ані украінцы ані палякі не зьяуляюцца перакананымі ворагамі расейскага бальшавізму і не уважаюць за канечнае змагацца зь ім. Найбольш вачавідным пацьверджаньнем запрауднае волі гэтых народау есьць безупынная збройная акцыя іх супраць маскоускага акупанта на тэрыторыі іхніх бацькаушчынау. Тымчасам выдатны удзельнік другой сусьветнай вайны генэрал Андэрс ад імя польскіх вайсковых колау у сувязі з выпадкамі у Карэі нядауна заявіу, што палякі, якія першыя адважна спаткалі удар арміі Гітлера за інтарэсы дэмакратычнага сьвету, а падчас усяе вайны найбольш крывавіліся як у краі так і на палех бойкі у Італіі і Заходняй Эуропы за тыя-ж самыя інтарэсы, у канчальным выніку былі гэтым дэмакратычным сьветам пакінутыя і здадзеныя на ласку бальшавіцкага агрэсара. Таму сягоньня палякі навучаныя горкім дасьветчаньнем другой сусьветнай вайны, дадуць сваю збройную сілу для супольнага змаганьня супроць супольнага ворага тады толькі, калі Захад афіцыйна ім загарантуе, што гэтае змаганьне будзе ня толькі для абароны Захаду, але й для вызваленьня народу польскага, Ня гледзячы нават на факт, што у сваіх абсурдальных умовах перад Захадам за удзел у арганізаваным ім змаганьні супраць бмльшавіцкага імпэрыялізму высоуваюць палякі ня менш імпэрыялістычныя дамагьньні адбудовы незалежнай Польшчы ізь землямі «адзысканымі“ на Захадзе, як і зь няпольскімі страчанымі землямі на усходзе, само становішча палякоу што да удзелу у вайне на Карэі і магчымых іншых фронтах якраз адказвае інтарэсам польскае палітыкі.

Падобнае становішча занялі й украінцы, Газэта „Украінец—Час“ (Но. 30-31 з 23-30.7.1950) падае, што некаторыя ДП заявілі сваю гатоунасьць—не на заклік іхных палітычных арганізацыяу, зразумела, але із собскае індывідуальнае ініцыятывы — ваяваць на Карэйскім фронце. „Але ці з палітычнага боку, такія самачынныя згалошаньні да войска есьць правільныя?»—пытае газэта, пасьля чаго дае наступны адказ: «Гісторыя апошняга стагодзьдзя навучыла нас, што не. Перад тым, як выступаць на полі бою, трэба стварыць для гэтага палітычныя перадумовы, бо інакш нашая ахвяра крыві не прынясе карысьці нашым бацькаушчынам. Толькі тады, калі заходні сьвет выпіша на сваіх сьцягох клічы поунай свабоды цяпер паняволеных народау і калі задэкляруе, што ен стаіць на пазыцях разьдзелу маскоускай імпэрыі, настане час тварыць нашыя вайсковыя фармацыі і йсьці нам на поле бою. Да таго часу трэба нам пачакаць на выніκі стараньняу нашых палітычных правадыроу пераламаць нэутральнае настауленьне Захаду да нашых мэтау.»

Трэба узяць тут пад увагу, што Захад ня мае яшчэ выпрацаванай праграмы у дачыненьні да упарадкаваньня усходу Эуропы і падсавецкай Азіі і што сярод некаторых палітычных колау ягоных, асабліва Амэрыкі, існуе яшчэ канцэпцыя вялікай і непадзельнай Расеі Керэнскага, якая мела-б быць далейшай турмою некалькіх дзесяткау нерасейскіх народау. І гэтая новая турма, хоць і не бальшавіцкая была-б усероуна турмой. Таму становішча украінцау і палякоу есьць абгрунтаваным і палітычна разумным.

Які-б, прыкладам, Заходні сьвет і стварыу палітычныя перадумовы для нашага удзелу у вайне у Карэі, то астаецца яшчэ справай вельмі сумліунай, ці быу-бы сэнс і карысьць ня толькі для нас, але для таго-ж Захаду пасылаць нашых жаунерау на Далекі усход. Беларускі жаунер у Карэі будзе мець тую самую вартасьць, што і кажны жаунер чужынецкі, але у некалькі раз меншую за карэйца. Затое у сваей собскай бацькаушчыне кажны беларус, які знае усе сьцежкі й дарожкі сваей радзімы, будзе у шмат разоу карысьнейшы за кажнага чужынца. І там ен будзе напэуна патрэбным. Незалежна ад таго, ці хто хоча вайны, ці не, ня гледзячы на тое, ці Карэя есьць ужо першым актам новай сусьветнай трагэдыі, ці толькі пралегам да яе, вайна есьць нямінучай, пакуль побач із дэмакратычным сьветам існуе праступны й неабмежаваны у сваім імкненьні да панаваньня над усім сьветам бальшавізм. А таму беларускія жаунеры маюць перад сабою асаблівыя заданьні, зьяуляюцца зьвязаныя сьвятымі абавязкамі перад собскай бацькаушчынай і народам, і гэтыя заданьні яны у адпаведны мамэнт бясспрэчна выкапаюць.

Ува усім гэтым есьць і другі бок справы. Калі-б, прыкладам, і надыйшоу жаданы мамэнт аддаць усе свае сілы беларускім жаунерам для збройнага змаганьня за Бацькаушчыну, дык не Астроускаму месца у радох шчырых і запраудных змагароу-патрыетау, ня то што на чале іх. Мы ведаем, што Астроускі есьць нядрэнным майстрам розных вэрбовак беларусау для усякіх супроць беларускіх афэрау. Гэтак у Заходняй Беларусі ен, як адзін з сяброу Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Заходняе Беларусі навэрбавау перад 1927 г. цэлыя тысячы беларускай студэнцкай моладзі і сялянскага актыву для пасылкі у савецкі «рай», дзе усе яны трагічна кончылі у засьценках НКВД і у савецкіх канцэнтрацыйных лягерах. Калі-ж у канцы канцоу гэтая праступная работа Астроускага была здэмаскаваная, а сам ен быу змушаны сесьці на судовую лаву абвінавачаных, дык, каб выкупіць сваю скуру пераходзіць на службу польскае дэфэнзывы і распачынае новы палянафільскі курс. Тады усю тую беларускую моладзь што яшчэ год назад сам выхоувау у

(Працяг на балонцы 5)

# АДУМАЙЦЕСЯ СУСЕДЗІ

Летувіская газэта «Летувс», што выходзіла у Нямеччыне (Мэмінгэн), зьмясьціла ў № 19 (64) за 12. 5. 1950 абшырны артыкул, у якім ня толькі паўтарыла, але й значна папоўніла ўсе ілжывыя даносы й інсынуацыі беларускіх русафілаў, званых зарубежнікамі, распаўсюджваныя імі ў ананімных лістоўках і падаваныя амэрыканскім і іраўскім уладам супраць вядучых беларускіх нацыянальна-незалежніцкіх дзеячоў на чале з Прэзыдэнтам БНР, інж. М. Абрамчыкам. У васнаўным-жа артыкул ёсьць скарачэньнем выдадзенага у мінулым годзе майстарамі зарубежніцкіх даносаў Ю. Сабалеўскім, І. Касяком і Я. Кіпелсм — як гэта было ўстаноўлена — і распаўсюджванага імі ў лягерах ДП Нямеччыны ананімнага ратататарнага пашквілю пад назовам «Хто такія Крывічы»?

Што падобнага роду правакатарскія даносы рабілі й робяць нашыя зарубежнікі, з гэтага няма патрэбы дзівіцца. Ня толькі кажны беларус, але й усякі чужынец, які хоць трохі арыентуецца ў беларускім пытаньні, ведае, што ўсё беларускае зарубежніцтва зьўляецца зьявішчам агентурнага характару, а таму й праводзіць яно ўсякімі даступнымі яму сродкамі агентурную работу на карысць маскоўскага імпэрыялізму ўсёроўна якога колеру. Такім чынам з нашымі зарубежнікамі тут усё ўпарадку, бо калі-б, прыкладам, не займаліся яны гэтай бруднай работай, дык ня былі-б тады зарубежнікамі.

Але тое, што так ахвотна зайграла з імі ў вадну дудку летувіская газэта, робячы гэтым самым прыемную ўслугу ўсякага роду агентам Масквы, нас што найменш моцна зьдзіўляе. **Падобныя выпадкі дагэтуль ня мелі яшчэ месца ў міжнацыянальных дачыненьнях сярод еміграцыяў паняволеных маскўскім бальшавізмам народаў,** ня гледзячы на тое, што паміж некаторымі зь іх існуюць значна большыя палітычныя супярэчнасьці, чымсьці між намі і летувісамі. Нельга таксама прыраўніваць з гэтым фактам паддзержываньня зарубежніцтва ўкраінскай газэтай «Украінскі Вісті». Гэтая газэта рэпрэзнтуе толькі невялічкую частку украінцаў, непапулярную сярод цэлае масы украінскае эміграцыі, а па другое «Украінскі Вісті», ня гледзячы на свае сымпатыі да нашых русафілаў, ніколі аднак не пасунуліся да такіх разьмераў правакатрскае ілжы.

Таму выпадак зь летувіскай газэтай ёсьць выпадкам адзіночным, які не знаходзіць сабе прыкладу сярод іншых нацыянальнасьцяў. А калі ўзяць пад увагу факт, што летувіская грамадзянства на эміграцыі — як цьвердзяць самі-ж летувісы і як яно ёсьць да некаторай меры узаўпраўды — ня ведае разьбіцьця на ўзаемна варожыя палітычныя групы, трэба былоб лёгічна ўважаць, што становішча, занятае ў дачыненьні да нас газэтай «Летувіс», ёсьць становішчам усіх летувіскіх палітычных колаў на эміграцыі. А таму гэты факт мае тым большую вымову.

Ані палемізаваць ані апраўдвацца перад летувіскай газэтай тут ня зьбіраемся. Самы спосаб нападу, у якім безь ніякіх довадаў, а толькі на аснове зарубежніцкіх ананімных пашквіляў абвінавачваюцца передаваыя беларускія палітыкі ў фашыстоўскай і камуністычнай агентурнасьці, ёсьць на столькі непаважны, й непрызваіты, што выключае ўсякую дыскусыю. Хочам толькі шырэй паінФармаваць аб гэтым нашае грамадзянства ды зафіксаваць гэты нячуваны факт для будучых узаемадачыненьняў з нашымі заходнімі суседзямі.

Прычына гэтай напасьці з боку летувіскае газэты для нас ведамая. Ёсьць ею катэгарычная адмова прадстаўнікоў Ураду БНР зрачыся на карысьць будучай незалежнай Летувы вялікага абшару беларускіх земляў уключна з горадам Вільняй, чаго дамагаліся прадстаўнікі летувіскага эміграцыйнага ўраду падчас некалькіх супольных гутарак паўтара году таму назад. Бо калі гэтыя гутаркі ня далі летувісам спадзяванага выніку, пачалі яны хутка пасьля таго какетаваць беларускіх зарубежнікаў, выражаючи такім прымітыўным спосабам сваю помсту. Сам спасоб такога рэагаваньня з боку нашых суседзяў больш чым наіўны, бо ня толькі беларускі, але й ніякі іншы еміграцыйны ўрад ня можа раздаваць направа й налева собскіх тэрыторыяў за цану прыязні прэтэндуючага на іх. Тымбольш гэта нэмагчыма ў эміграцыйных умовах жыцьця, калі ў гэтай справе сам народ ня мае найменшае магчымасьці сказаць свайго слова. Калібжа, скажам, Урад БНР заспакоіў наебаснаваныя патрабаваньні летувіскага ўраду, то такая ягоная пастанова ані чуць не абавязвала-б беларускага народу, а сам урад тады ня менш-бы скампрамітаваўся, чымсьці скампрамітаваліся сяньня рэдактары газэты «Летувіс».

Становішча летувіскае газэты ня менш нас яшчэ дзівіць зь іншага гледзішча. Як назваць такога роду выступленьне, якое прыносіць толькі карысьць супольнаму як нам, так і летувісам ворагу- маскоўскаму імпэрыялізму, а скіраванае супраць прыроднага летувісам саюзьніка? Ды як гэта не раскумекалі паважаныя рэдактары, што гэткім выступленьнем прыносяць яны шкоду не ў такой меры беларускаму, скольки свайму собскаму летувіскаму народу й ягоным нацыянальным інтарэсам?

Памінаючы ўжо нават нашую даўгавечную супольную мінуўшчыну, астаецца фактам бяссумліўным, што ўнармаваньня беларуска-летувіскіх дачыненьняў, у будучыні будзе справай канечнай для інтарэсаў ня толькі беларускіх, але ў роўнай, а мо' навет і большай меры летувіскіх. А ці-ж падобныя выбрыкі зь летувіскага боку не ствараюць атмасфэры, якая можа зрабіць немагчымымі ўсякага роду спробы палагоджваньня ўзаемных супярэчнасьцяў для супольнага дабра?

Бяручы пад увагу аснаўныя прынцыпы кажнай саліднай палітыкі, элемэнтарныя асновы міжнацыянальнай этыкі, ды напасьледак нацыянальныя інтарэсы самых летувісаў, ніяк нельга згадзіцца, што аўтарамі й інсьпіратарамі ўспомненага артькулу бьлі запраўдныя палітыкі прынамсі зь мінімальным палітычным кругазорам, а не дамарослыя тупалобыя палітьканы, якія, хочучы ўдарыць па некім, сьцёбаюць па самых сабе.

Мы беларусы здаём сабе дастаткова спарву з таго, што беларуска-летувіская прыязнь і супрацоўніцтва ёсьць справай неабходнай як для нас, гэтак і для летувісаў. Мы верым таксама, што й бальшыня летувіскага грамадзянства ёсьць таго самага перакананьня. Аднак для таго, каб гэтак патрэбная беларуска-летувіская прыязнь і супрацоўніцтва сталася фактам, трэба, каб летувісы такіх безадказных палітыкаў, як рэдактары «Летувіса», пасадзілі на заслужанае імі месца, а не на становішча выражальнікаў іхняе грамадзкае апініі.

Алесь Крыга

## ЧАРГОВАЯ АФЭРА АСТРОУСКАГА

**(Заканчэньне)**

камуністычным духу, выдае асабіста польскай паліцыі, інакш кажучы, завэрбоувае яе на Лукішкі і у іншыя польскія турмы. Пры немцах ахвотна бярэцца за вэрбоуку беларусау у Беларускую Краевую Абарону, аднак не парупіуся зусім пра арганізаваную эвакуацыю апошняй, калі Беларусь займалі бальшавікі. Пакінутыя там з ласкі Астроускага жаунеры БКА, іхныя сем'і, як і жыхары арганізаваных і узбройваных немцамі за згодай і пры падтрыманьні Астроускага г. зв. «абаронных весак» сталіся потым трагічнымі ахвярамі бальшавіцкай помсты.

Дык ясна, што чалавек палітычна кругом скампрамітаваны, якім есьць Астроускі, які ужо ня раз вэрбавау атуманеных ім беларусау на іхную собскую згубу і народную шкоду ня можа заклікаць і вэрбаваць беларусау на сьвятое змаганьне за Бацькаушчыну навет і у тым выпадку, калі-б, прыкладам, гэтым разам і кіравауся ен найлепшымі матывамі. Чалавек, які так цынічна надужывау давер масау, ня можа ня страціць напасьледак гэтага даверу, а таму усякая справа заініцыяваная й рэалізаваная ім, была-б згары асуджаная на поуны правал.

Але што гэтыя матывы й тут нячыстыя, гаворыць аб гэтым ня толькі насьветлены вышэй палітычны аспэкт гэтае справы. Уважна прачытаушы «Адозву« Астроускага, дзе сказана, што усе беларускія жаунеры »павінны узяцца за зброю, каб, супольна з усімі свабодалюбнымі народамі сьвету, палажыць канец бальшавіцкім зьдзекам маскоускага Крамля», трэба было-б, будучы пры здаровым розуме, думаць. што ужо існуюць рэальныя магчымасьці арганізацыі беларускіх вайсковых фармацыяу і высылкі іх на Карэю. Тымчасам ведама, што аніводная дзяржава, дзе знаходзяцца эмігранты з Усходу. ня толькі не дазваляе яшчэ тварыць вайсковых аддзелау, зложаных з гэтых эмігрантау, але наагул ня ставіць гэтага пытаньня. Дык што-ж тады абазначае »Адозва» Астроускага й ягоны стрэл у пустое: «Да зброі, браты беларусы»? Адказ можа быць толькі адзін: уся гэтая шуміха Астроускага, а праві льней нязд арная спроба выклікаць шуміху, есьць нахабным ашуканствам і аднэй із чарговых ягоных палітычных афэрау, у якіх, як ужо было сказана, зьяуляецца ен незаменным майстрам.

У сваей «Адозве» патэтычна заяуляе беларускім жаунерам Астроускі: «Я, асабіста буду разам з Вамі у першых радох!» Кажны, хто хоць трохі ведае Астроускага, можа быць пэуным, што гэтак ен будзе наагул на Карэі, як цяпер есьць у Швайцарыі, дзе, як ен падае, быццам пісау сваю «Адозву» і свой «Загад» (жыве у Гэкстэры—Вэстфалія—Нямеччына—РэД). А што тычыцца «першых радоу» то гэтак ен у іх будзе, як быу у першых радох Беларускай Дывізыі у 1945 г., калі ейныя жаунеры пераж ывалі запраудную трагэдыю незразуменьня з боку амэрыканцау ды галодныя і халодныя месяцы ваеннага палону.

С. Крупыніч.

# ПАМАЖЫЦЕ ПАТРАБУЮЧЫМ!

Для тых нашых суродзічау, што змаглі выэміграваць зь Нямеччыны, справа іхняе выгнанскае будучыні больш менш разьвязаная. Кажны зь іх у краіне новага асяленьня мае поуную магчымасьць працы, а значыцца й існаваньня.

Але, як ведама, пэунай частцы беларусау з тых або іншых прычынау, галоунае з прычыны хваробы, непрацаздольнасьці ці перастарэлага веку адмоуленыя правы на эміграцыю наагул. Яны змушаныя астацца у Нямеччыне на стала. ІРО спыніла над імі усякую матарыяльную апеку, а таму есьць яны уключанымі у нямецкую сыстэму гаспадаркі. Усе яны жывуць у лягерах, якімі кіруе нямецкая адміністрацыя, бо з прычыны вялікіх ваенных зьнішчэньняу у Нямеччыне няма й мовы, каб ім былі прадстауленыя магчымасьці жыць у людзкіх умовах—на прыватных гасподах. Ды калі-б навет і былі спрыяльныя жыльлевыя умовы у Нямеччыне, то усероуна нашыя людзі не маглі-б чым плаціць.

У тэорыі кажны высяленец мае права на працу, але у практыцы, з гледзішча на вялікую колькасьць безработных немцау, толькі у нязвычайна рэдкіх выпадках нашыя людзі могуць знайсьці сабе працу й заработак. Ды з другога боку аграмадная бальшыня перамяшчэнцау, пераведзеных на нямецкую эканомію, гэта старыя, хворыя й непрацаздольныя.

Дзеля гэтага амаль усе нашыя суродзічы у Нямеччыне зьяуляюцца змушанымі жыць із дапамогау нямецкага міністэрства для уцекачоу. Гэтыя дапамогі наступныя: галава сям'і атрымлівае 35 нямецкіх марак у месяц, жонка—25 м. і дзеці—па 20 м. Узрослыя адзінокія разглядаюцца, як галовы сям'і. Апрача гэтага выплачваецца малая сума на дробныя расходы г. зв. „Ташэнгэльд» для галавы сям'і—10 м., для жонкі—8 м. і для дзяцей—па 7 м. у месяц. З усяе гэтае мізэрнае сумы вылічваецца у месяц: за электрычную плітку да варэньня—4.80., за газ—5 м., за электрычнае сьвятло за адну лямпку—1.20 м., за электрычнае жалязка—1 м. і за радые—0.50 м.

Замест грошау на утрыманьне можна сталавацца на агульнай кухні, што бальшыня й робіць, бо нельга нават выабразіць, каб можна было пражыць з гэтых дапамогау.

Ані вопраткі, ані абутку, ані іншых рэчау штодзеннага ужытку жыхары лягерау не атрымліваюць зусім.

У тэорыі маюць памагаць ім некаторыя дабрадзейныя міжнародныя арганізацыі, галоуна ІМКА і «Ворльд Чэрч Сэрвіс». але кажны, хто жыу дагэтуль у лягеры ДП, ведае, што у практыцы гэтыя дапамогі мелі толькі маральнае значэньне. Бо не пацешыць галоднага помач, прыкладам, такой арганізацыі, як ІМКА, што дагэтуль выражалася у арганізаваньні сьвятліцау—чытальняу, прыдзяленьня футбалау або у высьвятляньні за зьніжаную аплату мала вартасных фільмау.

Цяжкага й бязвыхаднага палажэньня тых, што есьць змушаныя астацца у Нямеччыне, нельга у ніякім выпадку прырауноуваць з палажэньнем ДП, калі яны былі пад апекаю ІРО. Кажны тады пацяшау сябе надзеяй, што ягоны побыт у лягеры ДП будзе часовым і што раней ці пазьней ен выэмігруе. Значыцца маральны стан людзей быу тады без параунаньня леншы. Па другое, матар'яльная апека ІРО без параунаньня была большай і шырэйшай ня гледзячы навет на дрэнную й часта зусім нерацыянальную, а значыцца стратную арганізацыю іраускае помачы. Апрача гэтага у іраускіх лягерах, як і у розных установах ІРО, былі даволі шырокія магчымасьці заработнае працы для ДП. Гэтых апошніх магчымасьцяу цяпер няма зусім, бо у лягерах, што знаходзяцца пад нямецкай адміністрацыяй, усе платныя становішчы, ня выключаючы навет „блекляйтарау“ слесарау, электраманцерау і кухароу, займаюць немцы.

Бяручы усе гэта пад увагу, трэба сьцьвердзіць, што палажэньне нашых людзей, якія не змаглі выэміграваць зь Нямеччыны, есьць жахлівае у літэральным значэньні гэтага слова. Кажны, хто ведае умовы жыцьця у Нямеччыне і нямецкія цэны, згодзіцца, што ВЫЖЭЙ ПЕРАЛІЧАНЫЯ ДАПАМОГІ НА СТОЛЬКІ МАЛЫЯ, ШТО НЯ ТОЛЬКІ СКРОМНА, АЛЕ БОЛЬШ МЕНШ МАГЧЫМА ПРАЖЫЦЬ ЗЬ ІХ АБСАЛЮТНА НЕЛЬГА, не гаворачы ужо аб куплі адзежы ці іншых неабходных рэчау.

Дык паскольки нашыя людзі асталіся незалежна ад іхнае волі у такіх цяжкіх умовах існаваньня у Нямеччыне, імі павінны сур'езна заапякавацца нашыя суродзічы, што выэміграваліі, якія знаходзяцца у больш менш нармальных умовах жыцьця. Шырокую акцыю дапамогі астаушымся у Нямеччыне праводзяць ужо усе іншыя нацыянальнасьці. Гэтую акцыю павінны безадкладна распачаць і мы.

Асаблівая павінна быць зьвернутая увага на тое, каб акцыя дапамогі беларусам у Нямеччыне была АГУЛЬНАЙ, г. зн. каб усе беларусы, што выэміграваліі прыймалі у ей актыуны удзел, СЫСТЭМАТЫЧНАЙ, г. зн. каб помач ня была прыпадковай ці аднаразовай, але сталай, і адпаведна ЗАРГАНІЗАВАНАЙ.

На наш пагляд неабходна, каб у кажнай краіне, дзе есьць беларусы (ЗША, Канада, Аргенты-

(Заканчэньне на балонцы 6)

# Заслужаны адказ правакатарам

Нейкі Рыгор Кнупфэр, падаючы сябе расейцам, ськіравау пісьмо да Прэзыдэнта Шкоцкай Лігі за Свабоду эуропы сп. Д. Ф. Стуарта, дзякуючы стараньням якога быу зарганізаваны у эдынбурзе Кангрэс прадстаунікоу народау АБН. Гэтае пісьмо, як і свой адказ на яго, дазволіу Д. Ф. Стуарт апублікаваць. Кнупфэр між іншым піша: „За пасярэдніцтвам маіх расейскіх суродзічау дайшло да майго ведама, што Вашая Ліга арганізуе ня толькі Саюз антыкамуністых, але й антырасейскіх сэпаратыстых, авантурнікау і квісьлінгау, якія нікога не рэпрэзэнтуюць за выключэньнем сваіх собскіх асобау. Ясным есьць, што Вашая Ліга, як мы прыпушчаем, не здае поунасьцю сабе справы з таго, што зь сябе прадстауляюць гэтыя казакі, украінцы, беларусы і іншыя сэпаратыстыя. Здаецца Вы не здаеце сабе справы і з таго, што калі Вы нападаеце на Расею й расейцау, гэтым самым, як ужо зрабіу Гітлер, Вы пхаеце іх паміма іхнае волі у лягер агульна зьненавіджанага чырвонага рэжыму. На усякі выпадак залучаны тут мэмарыял зможа памагчы Вам лепш зразумець запраудны стан рэчау...»

Далей Кнупфэр запэуняе сп. Стуарта аб гатоунасьці супрацоуніцтва як ягонага собскага, так і ягоных суродзічау для справы Лігі пад тэй умовай, калі яна ня будзе выступаць супраць Расеі. Свае пісьмо заканчвае ен славамі: «як прадстаунік бальшыні расейцау запэуняю Вас, што мы хочым жыць у сталай прыязьні з Вашым і іншымі краямі, калі-ж аднак Вы нас будзеце атакаваць і далей, дык будзем бараніцца. Не паутарайце памылак нацыстах, калі імкніцеся наш народ піхнуць у армію тыраніі толькі таму, што Вы зьяуляецеся ворагам расейшчыны. Не паддавайцеся пад уплывы квісьлінгоускіх крэатурау, якія зауседы у часе крызысу й напружаньняу выплываюць на паверхню падзеяу. Чыстая работа павінна быць робленая чыстымі рукамі.»

Спадар Стуарт пераслау Кнупфэру паступны адказ: „Вельмі Паважаны Спадару. Вашае пісьмо я атрымау. Я вельмі добра ведаю, з кім я маю дачыненьня; бо із сотняу і навет тысячау тэлеграмау і пісьмау ад большых і меншых арганізацыяу мог я пераканацца, каго гэтыя пісьмы й тэлеграмы рэпрэзэнтуюць. Я маю больш чымсьці дваццацілетняе дасьветчаньне й знаемасьць Савецкай Расеі й усіх краеу уздоуж ейнай заходняй граніцы. Я знаю расейскі народ прымасі ня горш, чымсьці Вы, і ведаю, чаго ен жадае. Я адчуваю вялікую любоу да усіх гэтых людзей.

У кажным выпадку маю я моцнае падазрэньне, што іменна Вы й Вашыя прыяцелі належаць да тых, што не рэпрэзэнтуюць нікога іншага апрача самых сябе, і што за Вамі стаіць якраз Крэмль, а не справа вольнасьці. Вашая мова есьць такая самая, як і мова «Правды», маскоускага радыя, Молатава, Вышынскага і іхных таварышау. Але ня есць гэта мова тых простых людзей, зь якімі я увайшоу у цесную сувязь. Было-б нязвычайным зьбегам акалічнасьцяу, калі-б Вы, што, паслугоуваецеся тэй самай мовай Крамля, ня былі зь ім зьвязаны.

Каб аддаць доуг ветлівасьці, запэуняю я Вас, што усім Вашым выясьненьням будзе прысьвечаная належная увага. Аднак ня будзьце зьдзіуленымі, калі мы ані з Вамі, ані з Вашымі прыяцелямі не пажадаем утрымліваць далейшага кантакту. З пашанаю! Д. Ф. Стуарт».

Прыведзеныя вышэй пісьмы ніякіх камэнтарау не патрабуюць, Шкада толькі, што мала есьць на Захадзе людзей, якія так глыбака й дакладна разумеюць правакатарскую работу усякіх агентау расейскага імпэрыялізму, а яшчэ меней такіх, якія хоць і разумеюць яе, дык ня маюць адвагі ацаніць яе паводля заслугау, як гэта робіць выдатны брытанскі палітык і вялікі наш прыяцель Д. Ф. Стуарт.

# Памажыце патрабуючым!

(Заканчэньне)

на, Аустралія, Бэльгія, Ангельшчына, Францыя й інш.), паусталі спэцыяльныя Камітэты Помачы Беларусам у Нямеччыне, заданьнем якіх было-б зарганізаваць і праводзіць гэтую помач як у грашох, так і натурай—прадуктовымі пачкамі й адзежай, якія былі-б высыланыя у Нямеччыну. Калі ходзіць пра такія краіны, як ЗША, Канада й Аргентына, да акцыі помачы беларусам у Нямеччыне павінны быць прыцягнутыя таксама й старыя, яшчэ даваенныя эмігранты.

Дзеля арганізацыйнай спраунасьці й рацыянальнага разьдзелу дапамогау необходна, каб яны высылаліся не індывідуальна, але на Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне, які разьдзяляу-бы іх раунамерна сярод патрабуючых і аб разьдзеле давау-бы справаздачы Камітэтам Дапамогі у кажнай краіне. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне, які есьць афіцыяльна вызнаны уладамі IРО за цэнтральнае прадстауніцтва беларускае эміграцыі у Нямеччыне, і зь якім сяньня супрацоунічае нямецкае міністэрства для уцекачоу, павінен узяць на сябе усю акцыю дапамогі беларусам у Нямеччыне і безадкладна прыступіць да ейнае арганізацыі.

Неабходна толькі, каб у сувязі з новымі дапамаговымі заданьнямі Камітэту паустау пры ім спрауна дзеючы й аутарытэтны кантрольны ворган.

Дык патрэба зарганізаваньня сталае помачы беларусам у Нямеччыне нашымі собскімі сіламі ужо поунасьцю насьпела. Астаецца толькі прыступіць да ейнае арганізацыі, а нашае грамадзянства паза Нямеччынай, ведамае із свае ахвярнасьці на нацыянальныя мэты, напэуна горача прыйме да сэрца й гэтую справу.

Дык у добры час!

СТ. СТ.

## 425-лецьпе друкарства у Беларусі

У 1525 годзе доктар Францішак Скарына з Полацка зарганізавау у Вільні першую у Беларусі друкарню і надрукавау у ей першую кніжку—«Апостал». Селета таму прыпадае 425-лецьце друкарства на нашай зямлі, Першую беларускую кніжку—«Біблію» надрукавау Скарына у Празе Чэскай у 1517 г.

Беларускі Камітэт ДП Лягеру Зээдорф (ангельская зона Намеччыны) адзначыу гэтую важную культурную гадавіну адумысловым вечарам, на праграму акога складаліся рэфэрат аб пачатках друкарства у Беларусі і солевае выступленьне маладога барытона Юрага Сенькоускага.

Рэфэрат, які адчытау др. В. Тумаш, быу ілюстраваны адчытаньнем адпаведных для вечару вершау («Перапісчык» і «Кніга» Максіма Багдановіча і «у гасподзе Падуанскай» Натальлі Арсеньневай) і цікавага адрыуку з повесьці аб Скарыне М. Садковіча.

Пры солевым выкананьні сьпеваком Сенькоускім шасьці беларускіх песьняу пад акампаньямант прафэсара Алеся Карповіча зьвярнула на сябе увагу прысутных новапакладзеная на ноты прафэсарам Карповічам песьня на словы Міхася Козыра — «Засьцілау туман даліны».

Паважна зладжаны вечар, хаця і скромна, але годна ушанавау памяць выдатнага сына нашай зямлі—Францішка Скарыны і адзначыу належна сярод тутэйшай беларускай грамады выдатную гадавіну—425-лецьце друкарства у Беларусі.

# Зь Беларускага жыцьця

## Агульны зьезд Беларусау у Нью-Ерку

26-га жнівеня селета адбыуся агульны зьезд сяброу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня у ЗША. Зьезд адбывауся у Брукліне (Нью-Ерк) у прысутнасьці высокага гасьця Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка. Зьезд адчыніу старшыня Галоунага Ураду БАЗ інж. М. Гарошка. Пасьля прывітаньняу удзельнікау зьезду старшыня інж. Гарошка зрабіу даклад аб дзейнасьці БАЗ. Кампазытар Кулікові ч у сваей кароткай прамове дзякавау ад імя усіх новапрыбыушых эмігрантау за вялікую дапамогу з боку БАЗ у эміграцыі беларусау у Амэрыку.

Агульным Зьездам быу выбраны Арганізацыйны Камітэт Беларускай Аутакефальнай Праваслаунай Царквы у Нью-Ерку.

На зьезьдзе была зробленая справаздача зь дзейнасьці культурна-асьветнага рэфэрату БАЗ, якім было зладжана некалькі навукова—папулярных дакладау на беларускія гістарычныя тэмы. Таксама была адзначана дзейнасьць жаноцкай сэкцыі БАЗ.

Зьезд пастанавіу заснаваць наступныя мастацкія сэкцыі: харавую пад кіраунiцтвам кампазытара М. Куліковіча, інструмэнтальную пад кіраунiцтвам сп. Каптуровіча і драматычную пад кіраунiцтвам сп. Нательлі Орсы й сп. Г. Паланевіча.

А. Шавель.

## Урачыстасьць БАЦЦ у Бад-Райхэнгалі

У суботу 12.8.50 а 19 гадзіне адбылася урачыстая сустрэча жыхароу лягеру Яго Прэасьвяшчэнства Япіскапа БАПЦ Васіля, які прыбыу у асысьце пратаярэя БАПЦ Лонгіна з Мюнхэну на запросіны беларусау і украінцау. Пры уваходзе у лягер прывітау прыбыушага Уладыку камандант лягеру, а таксама старшыні камітэтау беларускага і украінскага. Пасьля адказу на прывітаньні Уладыка накіравауся у царкву УАПЦ, на парозе якой вітау Яго украінскі сьвятар. Прымаючы пад увагу, што служба у царкве ужо канчалася, Уладыка адправіу урачысты малебен пры перапоуненай царкве. У нядзелю была адпраулена абедня, у часе якой сьпявау хор пад кіраунiцтвам сп. праф. Шыгыманага. А гадзіне 14-ай у ваднэй залі лягеру беларусы сустрэлі свайго Уладыку і запрошаных гасьцей скромным абедам, які у цеплай атмасфэры працягнууся да вечара. На абедзе былі прысутныя госьці ад украінау і ад палякау. Як адны так і другія у прамовах падкрэсьлівалі патрэбу цеснага супрацоуніцтва паміж усімі паняволенымі народамі. Ад беларускіх прамоуцау быда выражана спэцыяльная падзяка каманданту лягеру сп. Цесьляру, які прылажыу нямала стараньняу да сустрэчы Высокага гасьця. Яго прэасьвяшчэнства Уладыка Васіль правеу сярод беларусау два дні і ад'ехау у Мюнхэн горача разьвітваны жыхарамі лягеру.

## Агульны зьезд БХАА „Жыцьце“

У днях 5—7 жніуня г. г. адбыуся у Лендане III-ці Агульны Зьезд сяброу БХАА (Беларускае Хрысьціянскае Акадэміцкае Аб'еднапьне) «Жыцьце». Пасьля перавыбарау у Галоуную Управу увайшлі: а Ч. Сіповіч—старшыня; сп. А, Надсон секратар; сп. ф. Бартуль—скарбнік. Зьезд паміж іншым выслау пратэст супраць камуністычнай агрэсыі у Карэі на рукі карэйскага прадстауніка у Лендане, а таксама выслау адумысловую тэлеграму да сп. Трыгвэ-Лі—Галоунага Сакратара Аб'еданых Нацыяу. Ад сп. Т. Ц. Юун, карэйскага прадстауніка у Лендане, прышла ужо для БХАА „Жыцьце» гарачая падзяка.

## Адкрыцьце Беларуска й Хатні у Ню-ЕркУ

Стараньнямі Галоунай Управы Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня удалося здабыць у Брукліне—Нью-Ерк адумысловае памешканьне для Беларускай Хаткі. Урачыстае адкрыцьце Беларускай Хаткі адбылося дня 19.8.50 у прысутнасьці Сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Галоуная Управа БАЗ перанесеная у памешканьне Беларускай Хаткі.

## Беларуска-УКраінскі Канцерт

У ДП лягеры Зээдорф, Нямеччына, 30 ліпеня селета ад імені ІМКА быу зарганізаваны беларуска - украінскі канцэрт. На праграму канцэрту злажыліся салевыя песьні у выкананьні сьпевакоу Юрага Сенькоускага (беларускія) ды Юрага Тамарчэнкі (украінскія). Значная частка іх, гэта троры нашага кампазытара прафэсара Алеся Карповіча.

Сам праф. Карповіч акампаньявау да сьпеву і адыграу дзьве собскія кампазыцыі для фартэп'яна — «Прэлюдыя» і «Токато». Зь беларускай праграмы асаблівую увагу зьвярнулі на сябе новыя творы праф. Карповіча—песьня «Драуляны дом» і кампазыцыі народных песьняу «Палыночак» і «Лявоніха» для дуэтнага сьпеву.

## ПРАДАУЖЭНЬНЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ IРО

Міжнародная Арганізацыя для Уцекачу—IРО, якая мела спыніць сваю дзейнасьць у сакавіку 1951 г., будзе прадоужаная, як было афіцыйна паведамлена 5 верасьня, яшчэ на паугода, г. зн. да канца верасьня 1951 г.

## Да суродзічау

Адміністрацыя газэты «Бацькаушчына» зьвяртаецца да усіх суродзічау з просьбай аб матарыяльную дапамогу.

Таксама просім усіх нашых кальпартэрау своечасова й акуратна разьлічвацца. Хай нашая просьба ня будзе пустым гукам, дык газэта усетакі зможа выходзіць і надалей больш акуратна.

Ніжэй падаем сьпісак асобау якія апошнім часам прыслалі ахвяры на газэту «Б—на». Шчыра ім дзякуем, а адначасна просім іншых нашых суродзічау узяць зь іх прыклад.

Усю карэспандэнцыю слаць на адрыс адміністрацыі ніжэй паданы.

***

| | |
|---|---|
| 1. Краучук Янка (Бразылія) | 32 ДМ. |
| 2. Інж. Ханяука Ч. (З ША) | 5 а д. |
| 3. Калоша К. (ЗША) | 2 а д. |
| 4. Беларусы з Бад-Райхэнгалю | 16 ДМ. |
| 5. Грышчук В. | 5 ДМ. |
| 6. Карніловіч С. | 5 ДМ |
| 7. Сакоускі М. | 5 ДМ. |
| 8. Інж. Асоускі А. | 11.95 |

(Сп. Інж. Асоускі А. пераслау на «Б-ну» 13,91 швэцкіх карон у 1948 г., ькія Нямецкі Краевы Банх выплаціу толькі 22.8.50.)

Адміністрацыя.

У якой краіне мы не апынуліся, памятайма, што нашым нацыянальным абавязкам есьць годна рэпрэзэнтаваць сваю Бацькаушчыну й свой Народ!

Рэдагуе калегія

**Whiteruthenian News Paper „The Fatherland“ Authorized** by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 1. January 1950, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies. Responsible Publisher: Wladimir Bortnik. Printed by Georg Jakob, München 8, Pütrichstr. 3a.

**Administration Weißruthenischer Zeitung „Backauscyna“, (13b) München - Feldmoching, D.P. Lager B. 140—6. U.S.-Zone Germany.**